Беларуская газета

sumezha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА



№10 (93) Заснавана ў 1991 годзе. Кастрычнік 2000 г.

## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

### Не пашчасціла і бацьку

Як і прадказвала наша газета яшчэ ў жніўні, ніякіх цудаў па Пастаўскай выбарчай акрузе № 30 на прайшоўшых днямі выбарах у так званую палату прадстаўнікоў не адбылося. Перамог, як і жадала прэзідэнцкая адміністрацыя, "абаронца калгаснага сялянства" штатны дэпутат Пётр Розынка. Магчыма, была б нейкая барацьба, каб у нас уступіў у спрэчку за мандат іншы "палатачнік" з суседняга Браслаўскага раёна Алег Лапкоўскі. Але таго датэрмінова "спісалі", параіўшы вылучыцца на Мёршчыне. Там Лапкоўскі безнадзейна прайграў жанчыне-доктару, якую падтрымлівала "вертыкаль". Разам з сынам Камаем-малодшым перажывае зараз няўдачу і яго бацька Аляксей, які верна служыў рэжыму ў папярэдней палаце. Зрэшты, улада адсекла ад права засядаць у авальнай зале яшчэ былога міліцэйскага генерала У. Ягорава, дэпутатаў С. Ліўшыца і Л. Сечка і іншых, якія мелі смеласць крытыкаваць эканамічную палітыку прэзідэнта.

### У рэжыме працэплівання

Як толькі выбары прайшлі, было адключана ацяпленне жылых дамоў у абласным цэнтры. Віцебляне сталі абаграваць яшчэ з 12 кастрычніка. Але праз пяць дзён спынілі падачу цяпла. Што дало падставу многім лічыць гэты акт помстай уладаў за ігнараванне галасавання гараджанамі. У Віцебску не адбылося выбары па ніводнай з чатырох акруг. У нашым горадзе доўгачаканае цяпло падалі толькі 19-га. Але і зараз трубы ацяплення ў дамах грэюць дрэнна. Усё падпарадкавана рэжыму эканоміі. Пакуль не аднаўлена і падача гарачай вады. У параўнанні з іншымі гарадамі пастаўчане быццам людзі другога гатунку. Паколькі тэмпература вады мінімальная і нізкі ціск. Раз – пораз у шматпавярховых дамах здараюцца "паветраныя пробкі" і батарэі ацяплення становяцца ледзянымі. А вось плаціць за кватэру людзям за кастрычнік давядзецца ў разоў пяць больш, чым за папярэдні месяц.



### Падман бокам вылез

У суд Пастаўскага раёна з пракуратуры паступіла крымінальная справа па абвінавачванню Д., армяніна па нацыянальнасці, у буйной фінансавай афёры. Ён у пачатку года прыдумаў, як здавалася, ідэальную камбінацыю зарабіць больш тысячы долараў на роўным месцы. Дзеля гэтага прадпрымальны чалавек заключыў дамову з "Белдзяржстрахам" на страхаванне на буйную суму маёмасці свайго вясковага доміка на Лынтупшчыне. Потым перабраўся з каханкай у райцэнтр, пасяліўся на кватэры. У яго быў пэўны дар акцёра, наскольки праўдзіва разыграў сцэнку, быццам бы злодзеі абрабавалі хату. Акрамя заявы ў міліцыю "пацярпелы", які сам у сябе ўкраў рэчы і потым схаваў, запатрабаваў ад страхавой кампаніі вярнуць яму 1297400 рублёў. Аднак супрацоўнікі праваахоўчых органаў выкрылі падманшчыка. Цяпер ураджэнцу сонечнай Арменіі прыйдзецца на самой справе перажыць канфіскацыю маёмасці і, напэўна, у дадатак пазбавіцца і волі.

### Зноў прырода вінаватая

Адышлі ў нябыт тыя часы, калі лён быў самай прыбытковай і рэнтабельнай культурай на вёсцы. Калі такое назіралася, каб напрыканцы кастрычніка нават на адным з лепшых у краіне – Пастаўскім льнозаводзе закупілі трасты крыху больш тысячы тон не самай добрай якасці. Гаспадарнікі скардзяцца на фактар нізкіх цэнаў і неспрыяльнае надвор'е. Якое перашкодзіла падвесці ўборку пад жнівеньскія росы. Па гэтай прычыне завадчане не спарадкавалі яшчэ і сваё поле на плошчы 140 гектараў, якое яны ўзялі ў арэнду ў калгаса "Сцяг Перамогі". Тым часам энергічны дырэктар Пётр Скурко працягвае будаваць базу адпачынку, ужо падвёў пад дах новы падсобны цэх, дзе мяркуюць выпускаць шпагат і ваціну для мэблевых фабрык. Пастаўскі завод трохі працуе, а вось астатнія дзесяць льнозаводаў вобласці ў сярэдзіне зімы зноў могуць спыніць вытворчасць, бо сыравіны назапашваецца мала.

## Пажарныя мяняюць прафесію

У нязвыклай для сябе ролі папрацавалі днямі байцы Пастаўскага аварыйна-выратавальнага атрада. У той час, як іх калегі са сталіцы і Наваполацка, дэманстравалі перад расійскім міністрам па надзвычайных сітуацыях С.Шайгу, як трэба ратаваць людзей у бядзе, пастаўскія афіцэры і сяржанты ў поўным складзе выехалі на калгасныя палеткі. Замест баявой вучобы і праверкі гатоўнасці аб' ектаў да зімы нашы выратавальнікі – пажарныя выратоўвалі бурачкі і лён. Прыйшлося людзям у пагонах заняцца і пабелкай – уцяпленнем жывёлагадоўчых ферм саўгаса "Варапаева" да зімы. З гэтай гаспадаркі, якой пагражае поўны крах, дагэтуль збеглі добрыя тры сотні работнікаў. Зараз для свайго падраздзялення ў гарпасёлку пажарная частка будуе памяшканне. Саўгас дапамог некаторымі будматэрыяламі, але ў сваю чаргу папрасіў прыслаць пажарнікаў для затыкання неабходных дзірак. Дарэчы, падобнага ажыятажу з накіраваннем выратавальнікаў на палі калгасаў не прыпомняць нават старажылы часткі.

## Нашы тавары непатрэбныя Расіі

Падобна на тое, што ўслед за калгаснай вёскай цяжкія часы насталі для работнікаў прамысловасці Пастаўшчыны. У горадзе фактычна спынены кансервавы завод. У другім па колькасці насельніцва паселішчы – Варапаеве ледзь жывуць завод жалезабетонных вырабаў, дрэваапрацоўчы камбінат. А зараз цяжкасці могуць абрынуцца на працаўнікоў "Беліта" і завода вучэбнага абсталявання, чые асноўныя спажыўцы у Расіі. Удзельнікі экстранай нарады прамыслоўцаў краіны ў Пінску гаварылі аб рэзкім змяншэнні попыту на беларускую прадукцыю ў суседняй краіне. Расіяне зменшылі ўвазныя падаткі і нашым "Віцязям" з "Гарызонтамі" цяжка стала канкурыраваць з замежнымі аналагамі і новымі расійскімі тэлевізарамі. Пасля спаду імкліва падымаецца ўгору і расійская мэблевая прамысловасць. У суседзяў усе такія прадпрыемствы прыватныя, прыцягнулі замежныя інвестыцыі, робяць мэблю па сучасных тэхналогіях. Калі мы працягнем будаваць у сябе "рыначны сацыялізм", як бы беларусам не апынуцца ля разбітага карыта з вядомай пушкінскай казкі.

## Жыццём варта даражыць

Сонечныя цёплыя дні рэкорднага "бабінага лета" сталі самымі чорнымі ў жыцці адразу некалькіх сем'яў на Пастаўшчыне. 19-гадовы навучэнец ПТВ з 5-га гарадка, загуляўшыся з сябрамі, спазніўся ад'ехаць на аўтобусе да месца вучобы. Ён пабаяўся ісці дамоў начаваць і паспрабаваў залезці на гару над домам, дзе айчым зрабіў ложак, але сарваўся ў цемры і разбіўся насмерць. 18-гадовы дзяцюк з гарпасёлка Варапаева быў смярцельна траўміраваны начным цягнікам, калі, напэўна на падпітку, заснуў на пуцях. Крыху раней 21-гадовы веласіпедыст на адной з вуліц гэтага пасёлка парушыў правілы руху і загінуў пад коламі іншамаркі. Таксама пад начны цягнік Лынтупы-Віцебск трапіў на выездзе з райцэнтра 30-гадовы мужчына. Ці не занадта шмат трагедый за некалькі дзён? Між іншым на працягу ўсяго 2000 года ў раёне яшчэ не было ніводнага тыдня, каб не здараліся два-тры падобныя выпадкі з гібеллю людзей. Жыццё – такое кароткае, даецца адзін раз і крыўдна, што суайчыннікі зусім перасталі даражыць ім.

## Будзе новы міні-рынак

Жыхары горада ўжо заўважылі, як паблізу платнай аўтастаянкі ля будынку Аграпрамбанку на пыльнай пляцоўцы пачаліся падрыхтоўчыя будаўнічыя работы. Пустыр выраўнялі, завезлі сюды шчабёнку. Як стала вядома, на гэтым месцы ў пачатку мікрараёна вуліцы Юбілейнай адзін з прадпрымальнікаў задумаў узвесці міні-рынак. Такія патрэбныя збудаванні ўжо з'явіліся ў буйных гарадах, вельмі папулярныя яны ў краінах Еўропы. Задума цудоўная. Але ў нашай псеўдасацыялістычнай дзяржаве ўвесь час чагосці не хапае. У дадзеным выпадку прапаў бітум. З-за гэтага не мог працаваць мясцовы асфальта-бетонны завод. А наперадзе зіма. Таму пакуль на будоўлі далейшыя работы адкладзены. Будзем чакаць, што рынак з'явіцца наступнай вясной і парадуе пастаўчан асартыментам і таннасцю патрэбных тавараў і прадуктаў.

## Канферэнцыя ў Глыбокім

22 кастрычніка ў Глыбокім адбылася рэгіянальная канферэнцыя няўрадавых арганізацый. У яе працы прынялі ўдзел прадстаўнікі "трэцяга сектару" Браслаўскага, Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў. Дэлегаты падзяліліся досведам працы ў сваіх арганізацыях, распавялі аб праблемах, з якімі прыходзіцца пастаянна сутыкацца, аб сваіх стасунках з уладамі. Пастаўчане на фоне іншых раёнаў выглядалі лепш, пакольку ў нас створана і працуе больш арганізацый рознага накірунку, выдаецца некалькі газет разнастайнай тэматыкі, вялікі інтэлектуальны патэнцыял. Сярод дэлегатаў было наладжана шмат карысных кантактаў паміж арганізацыямі "трэцяга сектару" суседніх раёнаў. У працы канферэнцыі прынялі ўдзел старшыня Віцебскага аддзялення грамадскага аб'яднання "Фонд імя Л.Сапегі" і кіраўнік Віцебскага аддзялення грамадскага аб' яднання Праваабарончы Цэнтр "Вясна" Міхась Паўлаў. Напрыканцы былі абраны дэлегаты на абласную асамблею няўрадавых арганізацый, якая пройдзе ў другой палове лістапада ў Віцебску.

## Кніжная навінка

У кастрычніку пабачыла свет кніга па гідратапаніміцы вядомага на Пастаўшчыне паэта і краязнаўцы Ігара Пракаповіча "Адкуль паходзяць назвы" (назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна). Кніга выдадзена пры дапамозе і на абсталяванні грамадскага аб'яднання "Усяслаў Чарадзей" г. Наваполацка. У далейшым плануецца выданне кнігі пра назовы паселішчаў Пастаўшчыны, праца над якой больш чым напалову скончана.

*Падрыхтаваў У. Шык*

## Мяркуйце самі

### *Абяцаў і нічога не зрабіў*

*Як і абяцала наша газета, сёння мы працягнем аналіз перадвыбарчых абяцанняў А. Лукашэнкі і пабачым, што з тых гучных слоў выйшла на самой справе. Быццам бальзамам ліліся на душы людзей ягоныя запэўніванні аб тым, што не дам розным там прайдзісветам і злодзеям шыкоўна жыць у сваіх палацах. Нават не пасаромеўся цэлы спецыяльны пункт у праграме кандыдата ў прэзідэнты адвесці : " Вярнуць нарабаванае мафіяй народу". Але гэта быў толькі хітры тактычны ход. Дарваўшыся да ўлады, малады правіцель наадварот наблізіў да сябе тых, каго публічна абражаў.*

### Хто не з намі, той супраць нас

Народ даверлівы і прыніжаны на выбарах 1994 года нават не здагадваўся, што выбраў ён сабе яшчэ больш горшую сістэму існавання дзяржаўнага ладу. Касметычныя змены адбыліся ў вышэйшых эшалонах улады, а на месцах засталася тая ж старая партнаменклатура. Калі дзе прыходзілі новыя людзі, дык яшчэ больш маладукаваныя, амбіцыйныя і цынічныя. Што з гэтага атрымалася, зноў пераканаўчы дэманструюць лічбы статыстыкі:

-З кожным годам жывецца ўсё больш цяжка і проста страшна, паколькі за перыяд з 19990 па 1998 год колькасць зарэгістраваных злачынстваў павялічылася ў 1,62 разы.

-За гэты час колькасць злачынстваў, звязаных з ужываннем наркотыкаў, вырасла ў 7 разоў.

-Толькі на тэрыторыі Віцебшчыны згодна дадзеных інфармацыйна-аналітычнага цэнтра УУС сёлета за 8 месяцаў загінулі 1598 чалавек, у тым ліку 274 з іх ад рук забойцаў (чатыры такія трупы ў нашым раёне).

-Колькасць самагубстваў у Беларусі за гады праўлення тав.Лукашэнкі вырасла ў 1,9 разы.

-Паўсюдна па краіне значна выраслі штаты работнікаў органаў міліцыі, пракуратуры, КДБ, узброеных фарміраванняў пры прэзідэнце, але толькі на Пастаўшчыне летась было зафіксавана 356 злачынстваў, у тым ліку 170 крадзяжоў.

-Няўхільна і мэтанакіравана разбураліся асновы прававой дзяржавы, сведчаннем чаго



стала ліквідацыя незалежнай адвакатуры.

-Нават за дробязь людзей кідаюць за краты. Колькасць асуджаных вырасла з 37,4 тысяч у 1994 годзе да 47,5 тысячы летась.

-Пры гэтым "народным прэзідэнце" колькасць псіхічных растройстваў і нервовых захворванняў вырасла прыкладна ў 2 разы, актыўных форм туберкулёзу – на 46%, сіфілісу – у 5 разоў, алкагольнага псіхозу – у 1,8 разы.

-Заканамерна, што пры гэтым узмацнілася бюракратызацыя палітычнага рэжыму. Колькасць дзяржаўных служачых у органах улады ў сталіцы і на месцах павялічылася на 8300 асоб, з якіх толькі 800 утульна ўладкаваліся ў Мінску.

-Хоць жыццё лепш не стала, колькасць дзяржслужбоўцаў у стасунку да занятых у эканоміцы вырасла ў 2 разы, а заробкі чыноўнікаў значна апярэджвалі астатніх, уступаючы толькі банкірам.

Аб чым гавораць гэтыя лічбы? На нашай зямлі пануе шклоўска-магілёўскі клан, дзяржава набыла рысы аўтарытарнага рэжыму, палохае і здзіўляе ўвесь свет.

***Аналітычная група "Сумежжа***

# ГЕНЕРАЛЬНАЯ РЭПЕТЫЦЫЯ ГАЛОЎНЫХ ВЫБАРАЎ

*За некалькі дзён да выбараў у Паставах побач з агітацыйнымі матэрыяламі ў розных кутках горада з'явіліся броскія афішы. Так на сваё прадстаўленні запрашаў людзей заезджы расійскі цырк-шоу ліліпутаў. Жыхароў глыбінкі іншымі спосабамі далучалі паўдзельнічаць у ролі статыстаў у спектаклі пад назвай "Вырабы Палаты прадстаўнікоў" патрэбнага ўладамі. Дэпутата з такімі ж карлікавымі паўнамоцтвамі, як было загадана зверху, абралі. Самы час асэнсаваць гэту падзею, акрэсліць вынікі, падумаць, што нас чакае праз год...*

## Галасаванне па разнарадцы

Шчыра скажу, упершыню за апошнія выбары-рэферэндумы нават узрадаваўся, калі ўбачыў па тэлевізары кіслы твар каментатара Зімоўскага. Гэта ж, якая паніка назіралася сярод начальства пры паведамленні аб яўцы выбаршчыкаў толькі 52%. А праз дзень нават паляскаў у далоні, калі еўрапейская парламенцкая тройка заявіла, што гэтыя выбары не адпавядалі міжнародным стандартам, якія прад'яўляюцца ў нармальных дзяржавах да дэмакратычных выбараў. Гэта было галоўнае, чаго чакалі ўсе нармальныя людзі ў Беларусі.

Яшчэ ў пачатку года было вядома, штог па Пастаўска-Браслаўскай супольнай акрузе прэзідэнцкая адміністрацыя вырашыла пакінуць на другі тэрмін у "палату №2" аграрніка-камуніста Пятра Розынку. Той, калі ледзь не адхілілі ад улады самога "бацьку" Лукашэнка за злоўжыванні ўладай, спачатку вагаўся, а потым перайшоў у лагер прэзідэнта. Відаць, дагадзіў, раз уключылі ў вядомы спіс "сваіх", які быў надрукаваны ў газеце "Народная воля", Мясцоваму начальству было загадана : хто не забяспечвае патрэбны вынік, будзе адпраўлены ў адстаўку.

І далей усё пайшло-паехала па даўно адпрацаванаму сцэнарыю. Нават статыст у асобе сына дэпутата палаты Аляксея Камая з'явіўся. "Сумежжа" аб гэтым, дарэчы, паведамляла. Толькі не маглі падумаць, што пра Камая малодшага з'явяцца пахабныя надпісы тыпу "Камай, піва дай!", "Галасуй за Камая! Будзе грошы да ...". Фігура гэта – была загадзя не прахадная, хоць старшыня савета дырэктароў асацыяцыі "Белэкс" А. Камай лепш разумее ўсю глыбіню некампетэнтнасці тых, хто кіруе краінай. Можа і Розынка так думае, але ж дзе лепшай працы перад пенсіяй адшукаеш.

Ніхто ўладам не перашкаджаў рабіць тое, што было задумана. Праўда, ці не ўпершыню, па звестках з кампетэнтных крыніц, чыноўнікі "вертыкалі" не былі ўпэўненыя, каго падтрымае мясцовы люд і колькі люду не пойдзе галасаваць. Толькі тады з палёгкай уздыхнулі, калі масава ласкавыя нашы бабулі-дзядулі не падвялі, нават з радасцю ўсвядомілі сваю значнасць. Як жа. Падагналі аўтобусы і ўсе навокал сталі такія добрыя ў канторы. Не такія, як раней прыходзілася вяскоўцам нерваваццa, каб дапрасіцца камбайна ці якога прычэпа гною. Як прасілі – указвалі, так яны і прагаласавалі.

Меркаваў, што ў мястэчках людзі больш разумеюць сутнасць працэса і хоць тут разабраліся, што сабой уяўляе лукашэнкаўская палата. Але дзе там. У Паставах амаль кожны пяты кінуў паперку ў урну датэрмінова. Такіх па акрузе набралося амаль 22000 чалавек.

## Еўропа ставіць двойку

Так, беларускія ўлады, зрабіўшыя некаторыя касметычныя змены ў выбарчым заканадаўстве, разлічвалі нарэшце дабіцца прызнання як законнага органа – Палаты прадстаўнікоў у адпаведных міжнародных парламенцкіх структурах АБСЕ, асамблеі Савета Еўропы і іншых. Але еўрапейцаў абшукаць не ўдалося. Асабліва не задаволілі тэхнічную місію БДІПЧ (бюро дэмакратыі і правоў чалавека) нашы прычуды ў выглядзе датэрміновага галасавання, перанасных урнаў для галасавання і правілы падліку і абагульнення вынікаў.

Выбарчы кодэкс чотка, быццам трактуе, што **правам датэрмінова прагаласаваць могуць пакарыстацца грамадзяне, якія па тым ці іншым прычынам не здолелі б прыйсці на выбарчыя ўчасткі 15 кастрычніка.** У нашай акрузе, паўтару, такіх набралося цэлых 22 тысячы. І якое такое вялікае перасяленне магло быць у тую нядзелю, калі колькасць "досрочников" склала 35,7 працэнты. Прэм'ер Ярмошын такую вялікую лічбу па краіне растлумачыў, што беларусы яшчэ не завяршылі свае гаспадарчыя справы на зямлі. Дрэнна, відаць, думае аб народзе, які даўно ўсё пераараў-засеяў, бо з зямелькі толькі і выжывае.

А прымушалі датэрмінова галасаваць, не шкадавалі бензін на падвозы, бо была такая ўстаноўка. Каб у выпадку чаго, можна было што-небудзь ноччу памяняць-падправіць. Упэўнены, загадзя тыя бюлетэні праглядвалі, хоць наш люд у большасці сваёй вызначыўся за Розынку. Бо свой. Мясцовы, а яго саперніка са сталіцы ўспрымалі, як бізнесмена. У масавай свядомасці ўсе яны спекулянты, злодзеі, жулікі.

Дарэчы, яўна ўлады не чакалі, што будзе так шмат назіральнікаў. І спрацавалі яны на гэты раз прафесійна. Аб некаторых парушэннях яшчэ на этапе папярэдняга галасавання адразу было паведамлена ў сталіцу. Пра перашкоды назіральнікам у Паставах паведаміла радыё «Свабода» Зрэшты, яшчэ днём 15-га Аляксандр Камай абскардзіў парушэнні закона ў пракуратуру, якая хутчэй усяго абмяжуецца адказам-адмовай.

Фальсіфікацыі выбараў нельга выключаць, але хай ведаюць падабраныя ўладаю "надзейныя" іх людзі, на ўчастках, што праз год на выбарах будзе яшчэ больш

жорсткі кантроль. І калі будуць перавыбіраць прэзідэнта, з'явяцца не адзінкавыя ліпавыя назіральнікі (акрамя прадстаўнікоў расійскай Дзяржддумы), як было цяпер, а спецыялісты права самага высокага ўзроўню. Тых, каго мы бачылі на экранах, пра каго чыталі ў "чэсных" газетах – гэта былі навукоўцы, бізнесмены, журналісты і нават дэпутаты пракамуністычных поглядаў. Ніхто іх да нас не пасылаў. Яны прыехалі па ўласнай ініцыятыве, паглядзелі беларускія краявіды за наш дзяржаўны кошт. Паўтаруся, Еўропа назіральнікаў не дасылала і не прызнае новы састаў кішэннай Палаты прадстаўнікоў.



## "Бацьку" варта крэпка задумацца

Хай вас не здзіўляе занадта шчаслівы твар Аляксандра Рыгоравіча, калі ён апускаў на ўчастку ў спортакадэміі бюлетэнь за нейкага чалавека-патрыёта. Гэта была ўсяго толькі маска. У "бацькі" іх многа, часцей гнеўных і пагрозлівых. Ужо вечарам настрой у кіраўніка, які "не трымаецца" за сваё крэсла, быў іншы. А яшчэ Пуцін вечарам выклікаў на гутарку-унушэнне, бо нельга так малодшаму славянскаму брату хваліць перад тэлекамерамі "нармальнага мужыка" Слабадана Мілошавіча, якога ледзь не разарваў на часткі ўласны народ, калі дыктатар паспрабаваў фальсіфіцыраваць выбар сербаў на карысць Каштуніцы. Бач ты, і наш раптам загаварыў, што такія людзі могуць з'явіцца і перамагчы на Беларусі.

Добра ведае Лукашэнка, што ягоны далейшы лёс у многім будзе залежыць ад далейшай падтрымкі Расіі. Хоць і саюзнік, але буйны, нейкі канфліктны і эмацыянальны. У глыбіні душы наш кіраўнік перажывае, што можа паляцець са сваёй высокай пасады. Тым больш першы тур псеўда-выбараў у парламент не дае ніякіх падстаў для самазаспакаення.

Калі вёска ягоных стаўленнікаў масава падтрымала, дык горад яўна выйшаў з-пад кантролю "вертыкалі". Наш абласны горад Віцебск фактычна байкатаваў выбары. Ні па адной акрузе выбары там не адбыліся, ледзь-ледзь са скрыпам набралі галасы ці дакідалі патрэбную яўку ў Оршы, Полацку, Наваполацку. Па вобласці неабходны рубеж пераадолелі толькі а сёмай гадзіне вечара. Разам з тым усяго ў 14 выбарчых акругах кворуму не дабіліся. Трывожны знак. Пакуль народу не гаворыцца, што ў гэтую зіму ўслед за сельскай гаспадаркай лягла прамысловасць, трашчыць па швах рэспубліканскі бюджэт. Нашы тавары нехадавыя, дарагія, ад іх пачалі адмаўляцца нават самі расіяне.

Яшчэ больш значнага падзення жыцця і росту цэнаў не пазбегнуць, не спыніць. І ўжо не толькі палітолагі, але і спецы-аналітыкі спецслужб пачалі казаць, што шанцы на перавыбранне ў Лукашэнкі на другі тэрмін мінімальныя без вялізнай фальсіфікацыі. Яшчэ невядома, як праз год павядзе сябе на месцах пакуль быццам лаяльная да "імператара" яго вертыкаль. Надаеў "бацька" і ім. А калі яшчэ пачне на наступны год шукаць вінаватых ва ўласных праліках? Могуць і не падтрымаць, зрабіць прэзідэнцкія выбары чэснымі і справядлівымі.

На гэты раз ужо будзе думаць і сам народ. Цяпер пастаўчане аднесліся да галасавання амаль абыякава. Праўда, шмат тых, хто мае пазіцыю, прагаласаваў "супраць усіх" 15 кастрычніка. Аб'яднанай апазіцыі варта, сапраўды, аб'яднацца і ў патрэбны момант вылучыць свайго аднаго яркага, разумнага лідэра, які б здолеў інтэлектуальна і дастойна абыграць нашага дэмагога-папуліста. Будзем у гэта верыць. Цяпер толькі сляпы можа не бачыць растучага расчаравання асноўнай масы насельніцтва. Людзі зарабляюць мала, харчуюцца дрэнна, падаўленыя, сталі нейкія стомленыя, змрочныя. І ўсё больш тых, хто глыбока расчараваўся ў гэтым хакеісту.

Канешне, можа быць і горшы варыянт. Дзяржаўная машына грозная, але ўсё больш прабуксоўвае. Пакуль на Пастаўшчыне забяспечылі неабходны для спакою чыноўнікаў вынік. Але ж наперадзе зіма, якая праверыць на трываласць устойлівасць мясцовай гаспадаркі. Выбары і рэферэндумы пан Лукашэнка праводзіць навучыўся, а вось падняць эканоміку ён не зможа. У гэтым толькі, на жаль, застаўся ў народа шанц зразумець, пазбавіцца ад тых кайданоў, якія не дазваляюць маладой краіне Беларусі стаць на ногі і нарэшце палепшыць жыццё людзей. Беларусы адзін раз прагаласавалі, а церпяць ужо сёмы год.

***ЯЗЭП БІЗУНЧЫК***

# ЗАЛОМЫ ЯГО ЛЁСУ


*Фота Анатоля Кляшчука*

Ён з пасляваеннага пакалення. Нарадзіўся ў 1946 годзе, але калі выйшаў у падлеткі, тая, нібыта ўжо і далекаватая вайна давала пра сябе ведаць. Заходнебеларуская вёска толькі-толькі адбудавалася, перайшла з зямлянак, лазняў, пунь у больш прыстойныя хаты. Толькі пачыналі працаваць як належыць утвораныя на мяжы 40-50-х калгасы. Ды і не да вучобы было ў той час вясковым падлеткам. Самае лепшае, на што маглі разлічваць – сем класаў. А пасля за рэдкімі выключэннямі праца. Вось і Часлаў Баляслававіч Мацюшонак у свае 54 гады працоўнага стажу мае 40. Гэта, праўда, калі ўлічваць тры гады, што ён правёў на "хіміі" ў лагеры. Але ж там таксама праца. Ды давайце па парадку.

Працаваць Часлаў пайшоў, як мы, журналісты, любілі пісаць, прама са школьнай парты. Ды толькі ж парта былы невялікай і гадоў хлапчуку – 14. Пачынаў прычэпшчыкам на трактары. Цяпер гэта прафесія забытая. А ў той час прызначалася якраз для такіх маладзенькіх. Хаця па цяжкасці і небяспечнасці была адметнай ад іншых. Нездарма немала былых прычэпшчыкаў сёння інваліды. Задрамаць і зваліцца пад плуг ці якую іншую сельгаспрыладу для хлопца, які ноч правёў на вечарынах, было справай простай.

Ну а наш герой у 16 ужо стаў трактарыстам. Тады гэта было таксама працей. Прыехалі ў калгас, паглядзелі як водзіць юнак "гусенік", прынялі нейкі просценькі экзамен – працуй хлапеча! Было гэта восенню, а зімой не мог Чэсь ніяк завесці свой трактар. Успомніў, што вопытныя трактарысты падаграюць рухавік. Пачаў і сам падаграваць. Скончылася тым, што палаючае паліва з бачка палілося на твар. Збіўшы снегам полымя, пабег да маці (трактар па той завядзёнцы стаяў ля хаты): "Мама, не пужайся." А пужацца было чаго. Паўгода праляжаў у бальніцы, спатрэбілася перасадка скуры на твар. І сёння ў гэта верыш без ніякіх сумненняў і твар мае поўныя прыкметы даўняга вялікага абпалу. "Танкісцікі" – жартуе сам Мацюшонак.

26 гадоў адпрацаваў ён на гусенічным трактары. І цяжка захварэў. Сталі адымацца рукі. Асабліва зімою. Проста не чуў іх. Урачы доўга не маглі высветліць, што ж гэта такое. У рэшце рэшт натрапіў на вопытнага ўрача ў Докшыцах. Той шмат працаваў у шахцёрскім Данбасе. "Ага, чалавеча, у цябе прафесійнае захворванне, як у шахцёраў ад адбойнагша малатка. Вібрацыйная хвароба." І параіў куды звяртацца ў Віцебску, каб пацвердзіць яе. У Віцебску доўга адмахваліся, але потым усё-такі мусілі правесці поўнае абследванне. Нават трактар Мацюшонка правяралі на вібрацыю. І дыягназ старога доктара падцвердзіўся. Сёння Мацюшонак атрымлівае за прафесійнае захворванне кампенсацыю. Памер яе невялікі – 25 працэнтаў ад сярэднерэспубліканскага месячнага заробку. І гэта на ўсё жыццё. Нават у турме гэтыя грошы рэгулярна прысылалі. А як туды трапіў?

Дойдзем і да гэтага.

Недзе ў 1991 годзе прапанавалі яму, страціўшаму часткова здароўе, нечаканую справу: адкрыць сваё, прыватнае кафэ. Сваякі і знаёмыя браліся дапамагчы. І былы трактарыст з семікласнай адукацыяй пагадзіўся. Была гандлёвая жылка, была. Быў і пэўны авантурызм. Арандавалі памяшканне, заключылі дагаворы на пастаўку прадуктаў. І справа пайшла. 15 чалавек працавала ў кафэ, людзі сюды адпачыць ішлі валам. Таму мясцовы докшыцкі рэстаран зведваў пэўныя цяжкасці, што не магло не злаваць начальства. Але дзяржава была не ў накладзе. 85 працэнтаў прыбытку ішло ёй. Ды, ві-

даць, той жа авантурызм падштурхнуў новаяўленага прадпрымальніка ўвязацца ў не зусім законныя справы з мясам. У 1994 годзе супраць Мацюшонка была ўзбуджана крымінальная справа за крадзёж у асбліва буйных памерах. Але прысуд аб'явілі толькі ў 1997 годзе. Нейкая сімвалічная для яго лічба 3. Тры гады працавала кафэ, тры гады цягнулася следства. І прысудзілі тры гады "хіміі" – прымусовых работ, так што па прысуду відаць, што не надта і вялікімі былі тыя "буйныя памеры".

Сам Мацюшонак да такіх крутых паваротаў свайго лёсу адносіцца па філасофску.

"Што я бачыў трактарыстам? Праца, гул у кабіне, пыл. Мізэрны заробак. А ў кафэ і свету пагляздеў і жыцця пакаштаваў. Чаго там, ездзілі паўсюль за таварамі. У Польшчы некалькі разоў быў. Капейчына вялася. Я да гарэлкі быў не надта, гэта ўжо пад следствам – тры гады ўсё ж вісеў між небам і зямлёй – пацягнуўся. Але ж тады : у рэстаран зайсці, харошага віна выпіць… Праўда, быў і адваротны бок. Шмат зайздроснікаў, Хутка адчуў, што начальства адносіцца варожа. Ды і рэкет быў "наехаў". Вывезлі ў лес і добра такі адлупцавалі мяне. Пасадзілі потым гэтых рэкеціраў. Так што салодкім той мой хлеб можна назваць, але было і солі".

І вось табе – "хімія". Дарэчы, ведаеце, адкуль узялося само гэта слова? Некалі такіх вось асуджаных не да турмы а да прымусовых работ адпраўлялі ў асноўным працаваць на новабудоўлі хімічнай прамысловасці. Адсюль і слова. А па сутнасці так: " Трэба жыць у прызначаным інтэрнаце, пад аховай, з праверкамі і г.д. А ў астатнім як вольны чалавек. Хадзі на працу, выходзь у горад. Абы вяртаўся ў прызначаны час. Можаш, калі адпусцяць з'ездзіць дадому. Толькі вяртайся ў час. Мацюшонак не вяртаўся – зноў жа авантурная струнка. Раз, другі, трэці. Магчыма, сказалася і вольніца папярэдніх гадоў. Вось і дачакаўся. З "хіміі" за парушэнне рэжыму трапіў у Наваполацкую калонію ўзмоцненага рэжыму. Што ж, і да гэтага наш герой адносіцца без крыўды.

"Заслужыў, што казаць. Зоны спачатку баяўся вельмі.Наслухаўся рознага. Але аказалася, што і тут можна жыць. Працы асаблівай, канечне, няма, кормяць слаба. Але ж мне нейкая капейчына за хваробу ішла. Ды і падрабіць можна. Тую ж бульбу на кухні за каго-небудзь пачысціць. Вось ужо цыгарэты і ёсць. А на зоне цыгарэты – тыя ж грошы. На зоне чыста, рэгулярна лазня. І ніякіх там беспарадкаў. Не чапай нікога – цябе на зачэпяць. Аўтарытэты сочаць за парадкам, разбіраюць спрэчкі. Атрымаў перадачу ці грошы – можаш падзяліцца з "абшчаком", але асабліва цябе не няволяць. З "абшчака" дапамагаюць тым, хто нічога не мае. Крадзяжы вельмі рэдкія. У тумбачцы трымай цыгарэты, ежу – ніхто не возьме. Як ні дзіўна – злодзей у тым асяроддзі злодзеяў караецца жорстка. Ды і называюць іх "пацукамі". Але ж канечне, турма не мёд. Таму і цэняцца цыгарэты, чыфір – што дапамагае крыху забыцца. Там умудраюцца нават выпіць, хто хоча. Я дык не піў, таму і вызвалены датэрмінова. А так чаго толькі зэк не прыдумае. Нават самагонку гоняць. Паставяць і схаваюць бражку. Потым ёмістасць з ёй закрываюць у цэлафанавы пакет, у бражку апушчаны награвальнік з пласцін. Пакет шчыльна завязваюць. Бражка закіпае, выпарваецца. А на пакет ліюць ваду, каб пара ахалоджвалася. І на дно пакета сцякае гатовая самагонка. Цуд ды толькі, як першы раз пабачыш. Канечне ж, кантралёры ловяць, адбіраюць. Але і зэкі ўмеюць хаваць. Увогуле, там шмат цікавых людзей, шмат рукатых, што хочаш выштукаюць. Ды лепш туды не трапляюць".

Часлаў Мацюшонак стаў вольным чалавекам паўгода назад. Але вольны то вольны. За час адсідкі жонка развялася. Кватэра засталася за ёй. Трэба шукаць працу. А як без кватэры? Трэба адсуджваць сабе хоць пакой з трох. Але ж нават пашпарта няма. У свой час рэкеціры адабралі яго. А потым самі трапілі ў міліцыю, пашпарт у іх забралі як рэчавы доказ. Выклікалі Мацюшонка ў Мінск, але ён не надта расказваў пра свае прыгоды ў лесе. Аднаго з рэкеціраў, дарэчы ён сустрэў у зоне. Так што і ў тых жыццё не салодкае. Ну а пашпарт недзе ў следчага, цяжка і адшукаць – гады прайшлі. Пакуль што Часлаў Баляслававіч прыехаў у родную вёску, жыве з маці. Гаспадаркі ў той аніякай – старая. Але без справы ён не сядзіць. Штодня. У вёсцы шмат пенсіянераў, якім трэба дапамагчы. У час касавіцы не выпускаў з рук касу. Так што да невялікай пенсіі ад дзяржавы ёсць і скварка, часам бывае і чарка. Але, як гаварылі мне вяскоўцы, чарка толькі пасля таго, як работа выканана. Не ўжывае яе былы зэк да работы і ў час яе. Гэта аб нечым, ды гаворыць.

Вось назваў Мацюшонка былым зэкам. Сапраўды так, гэта ў яго біяграфіі на ўсё жыццё. А хто ён яшчэ? Былы няўдалы прадпрымальнік, які і па сваёй віне страціў набытае? І гэта так.

Але не будзем забываць галоўнага. Да ўсіх перамен лёсу была ў чалавека праца, цяжкая і не нармаваная на вёсцы, праца на гусенічным трактары, які па ўмовах, вібрацыі, шуме, не адпавядае ніякім нормам аховы здароўя. Мацюшонак у Докшыцкім раёне адзін з такім менавіта прафесійным захворваннем. Але не будзем наіўнымі. Яму проста пашанцавала, яму ўдалося даказаць ад чаго ў яго хвароба. А колькі былых трактарыстаў проста не хоча займацца гэтым, хадзіць па інстанцыях? Ужо само тое, што ідуць яны на пенсію ў 55 гадоў гаворыць аб прызнанні іх працы шкоднай. У колькіх былых даярак прызнаецца хвароба рук, ды толькі не прызнаецца, што хвароба гэта ад дзесяцігоддзяў ручной дойкі кароў.

Ну а што стоць галавы чалавек кінуўся ў невядомую справу, нечага дасягнуў, потым усё страціў – гэта крыху не падобна на наш вясковы люд, на наш вясковы характар. Такім чалавек, відаць, нарадзіўся. Я размаўляў з Мацюшонкам і мне здавалася, што ён яшчэ, як кажуць яго непрацяглыя былыя калегі, падымаецца. Не ў сэнсе гандлю, а ў тым сэнсе, што знойдзе сваё месца ў жыцці. Будзе больш дагледжаны і больш шчаслівы. Па крайняй меры ў гэта хочацца верыць.

***Алесь Касцень***

# ВЫБАРЫ СФАЛЬСІФІКАВАНЫЯ!

Рэспубліканскі цэнтральны каардынацыйны савет па падрыхтоўцы назіральнікаў за правядзеннем выбараў абнародаваў інфармацыю, з якой вынікае - выбары ў палату 15 кастрычніка не адбыліся, а іхнія вынікі былі сфальсіфікаваныя.

Старшыня РЦКСПН Мечыслаў Грыб паведаміў, што пры дапамозе кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ва ўсіх рэгіёнах Беларусі за выбарамі ў якасці назіральнікаў сачылі 5.574 чалавекі. Гэта дазволіла ахапіць больш за трэць усіх выбарчых участкаў краіны.

Шмат дзе назіральнікам заміналі наглядаць за выбарамі, не давалі кантраляваць падлік галасоў — нягледзячы на тое, што яны маюць на гэта права паводле новага Выбарчага кодэкса. Назіранне адбывалася не толькі ў дзень галасавання, а на працягу ўсяго выбарчага працэсу, улічваючы дні датэрміновага галасавання.

Па словах М.Грыба, лічбы, названыя старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай, яўна замоўленыя ўладай, бо істотна разыходзяцца з дадзенымі, што паведамілі назіральнікі. Нагадаем, дарэчы, што Лідзія Ярмошына ў 1996 тодзе была ў парушэнне закона прызначаная на пасаду кіраўніка Цэнтрвыбаркама асабіста Аляксандрам Лукашэнкам.

Насуперак заявам ЦВК, не адбыліся выбары ні ў адной акрузе такіх буйных гарадоў, як Салігорск, Наваполацк, Рагачоў, Полацк, Орша, Магілёў, Бабруйск, Брэст, Віцебск, Мінск. Ва ўсіх гэтых гарадах вынікі выбараў ужо апратэставаныя.

Усяго ж на выбары прыйшло, паводле падлікаў каардынацыйнага савета, не больш за 41% выбаршчыкаў. У буйных гарадах яўка выбаршчыкаў была яшчэ меншай - ад 35% да 38,5%. Як вядома, пасля доўгіх падлікаў улады абвясцілі зусім іншую лічбу - 60,6%.

Толькі ў Мінску у 94-й, 95-й, 99-й, 100-й, 104-й, 109-й і 110-й выбарчых акругах прагаласавала ад 34% да 46,7%, аднак на наступны дзень улады абвясцілі, што выбары адбыліся.

Як заўсёды ў апошнія гады, улады надалі шмат увагі прапагандзе датэрміновага галасавання. Бо нішто так не дапамагае прасунуць патрэбнага кандыдата, як датэрміновае галасаванне, - і пракантраляваць яго куды цяжэй, і любыя фальсіфікацыі тут магчымыя.

У Віцебску ў акрузе №19, што месціцца на тэрыторыі вайсковай часткі, датэрмінова прагаласавалі 69% выбаршчыкаў у форме. Цікава, куды ж яны мусілі збегчы са сваіх казармаў у дзень галасавання, што ім так карціла прагаласаваць раней?

У Гродне на тонкасуконным камбінаце працэнт папярэдняга галасавання склаў больш за 20%, а ўвогуле па Гродзенскай вобласці - крыху больш за 15%.

У Жлобіне звычайныя тэрміны паляўнічага сезона былі перанесеныя на тыдзень з той мэтай, каб прыкладна 1.500 паляўнічых, якія ёсць у тым рэгіёне, не зніклі ў дзень правядзення выбараў.

Але больш за ўсё, па інфармацыі каардынацыйнага цэнтра, падтасоўкі ішлі шляхам выкрэслівання людзей са спісаў выбаршчыкаў, каб падвысіць такім чынам агульны працэнт. Людзі выкрэсліваліся сотнямі, а назіральнікі атрымлівалі тлумачэнні, што за апошнія некалькі дзён усе тыя людзі некуды пераехалі або проста памерлі. У выніку некаторыя "нябожчыкі", якія ўсё ж з'яўляліся на ўчастках перад самым закрыццём, бачылі сябе выкрэсленымі са спісаў.

Красамоўны прыклад - 99-ая Ясенінская акруга Мінска (Маскоўскі раён), дзе назіральнікі фіксавалі парушэнні на ўсіх участках. Самай буйной падтасоўкай тут можна лічыць тое, што колькасць прагаласаваўшых на ўчастках была штучна падвышаная з 44,53% да 53,4%. У выніку было паведамлена, што выбары па гэтай акрузе адбыліся.

Па сведчаннях назіральнікаў, калі вядучы праграмы "Рэзананс" паведаміў пасля заканчэння галасавання, што выбары па ўсім Мінску не адбыліся, старшыні выбарчых участкаў з лёгкім сэрцам сталі падпісваць копіі пратаколаў, згодна з якімі агульная колькасць прагаласаваўшых склала 44,53%. І толькі пазней, відаць, атрымаўшы жорсткія ўказанні зверху, лічбы раптоўна пачалі змяняцца ў бок павелічэння і ўрэшце дайшлі да 53,4%.

Прывядзем некаторыя найбольш яркія параўнанні лічбаў на ўжо падпісаных пратаколах і ранішніх лічбаў.

195-ы ўчастак — колькасць выбаршчыкаў зменшаная на 250 чалавек, колькасць прагаласаваўшых павялічаная на 320, колькасць несапраўдных бюлетэняў павялічаная на 320, разыходжанне на 8,1%.

200-ы ўчастак, адпаведныя лічбы: 250, 225 і 230, разыходжанне — 15,3%.

218-ы ўчастак - колькасць выбаршчыкаў зменшаная на 69 чалавек, а колькасць прагаласаваўшых павялічаная на 840 чалавек, дзякуючы чаму разыходжанне склала ажно 35,8%.

І так амаль паўсюль. "Сумленнымі" засталіся вельмі рэдкія ўчасткі, а на некаторых падпісваць першыя, вечаровыя копіі пратаколаў адмовіліся, загадзя перасцерагаючыся ад таго, каб іх злавілі за руку. І так па ўсёй краіне... Сапраўдны дзень падману беларусаў!

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» г. Наваполацк.